Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 28 Пятніца, 26-га Верасьня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу [illegible] даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.



## Шуканьне цэнтру.

За тры месяцы, пражытыя нашай газэтай дасюль ад часу, як яна пачала выходзіць, прыйшлося заўважыць выразнае, саўсім натуральнае зьявішча: *шуканьне беларускімі масамі свайго нацыянальнага цэнтру.*

Шуканьне было гэткае беларускае арганізацыі, якая кожнаму жыхару няшчасных, глухіх провінцыяльных куткоў дала-б хоць-бы нейкую раду, хоць-бы нейкі адказ на набалеўшыя жыцьцёвыя запросы.

Ня раз, ня два, а блізка штодня рэдакцыя наша адведвалася кім-нібудзь з беларускіх інтэлігэнтаў; кожны, хто заходзіў да нас, стараўся даведацца, калі напраўду пачнуць праводзіцца ў жыцьцё законы аб роднай мове, калі можна будзе інтэлігэнту-беларусу прылажыць сваю працу, па якой даўно душа яго зносіць цяжкую тугу.

Ня гледзячы на летнюю пару, якая вымагае гэтулькі клопату ў земляроба, заходзілі да нас і простыя сярмяжныя сяляне, каб даведацца, ці напраўду хутка справа родная пайдзе праўдзівым жыцьцёвым шляхам.

Селянін — чалавек просты. Ен зьверыўся ў розных партыйных абяцанках, ён па сутнасьці абсолютнейшы рэаліст.

І вось яму цікава, калі-ж беларусы арганізуюцца так, каб на іх і ўлада крыва не паглядала і самі яны каб не баяліся сонцавага сьвятла, не замыкаліся ды ня шушукаліся дарэмна ў цесных гурткох, не даючы народу ніякае рэальнае карысьці.

Рэдакцыя завалена провінцыяльнымі пісьмамі з рознымі жальбамі, пасьля расказу аб якіх, часамі навет ня дужа пісьменныя аўторы ўдаюцца ў вельмі бадзёры тон, поўны здаровага народнага оптымізму: ось ня соладка жыць на сьвеце, але нішто—выкіруемся некалі на лепшае.

Цяпер, пад восень, найболей розных запросаў датычна школьнай справы.

І, разьбіраючыся ў гэтых запросах з месцаў, мімавольна прыходзіцца зьвярнуць увагу на поўную хаотычнасьць палажэньня гэтае справы.

Тут гаворыцца аб тым, што ўжо няраз складалася заява або прыгавар аб патрэбе роднай школкі, але нібыто прыгавар не саўсім так быў зроблены, як трэба, і справа застыла на месцы; там войт сказаў быццам на кожны сход дзеля напісаньня прыгавару патрэбна пазваленьне павятовага старасты, ў іншым месцы зноў школьны інспэктар кажа, што ня мае для беларускай школы адпаведнага вучыцеля, або прапануе сялянам залажыць прыватную школу на свой кошт.

Рэч ясная, што на свой кошт сялянам утрымаць школу трудна, трэба плаціць цяжкаватыя падаткі, так і глядзі трэба без пары вывезьці на рынак што-нібудзь з дробнае, мададое скацінкі, каб быць акуратным у сваім падатковым абавязку.

А да таго-ж і гаспадарка ад вайны пацярпела, туга ад'жывае, нарыхтоўваецца.

Адным словам, масы адчуваюць патрэбнасьць цэнтру, ім падробнасьцямі ўсіх фармальнасьцяў дзеля заснаваньня ў сябе школаў займацца трудна, як трудна разабрацца і ў тым, чаму іхнія спробы закладаць школы трапляюць на розныя тормазы.

Калі мы пыталіся ў сялян, чаму-ж яны не зьвяртаюцца па інструкцыі і разьясьненьні да сваіх выбранцаў — паслоў Сойму, дык няраз чуўся прыкры адказ:

— А як-жа, прабавалі. Паны паслы, калі й пакажуцца да нас, дык вельмі прыгожа гавораць, а дзела няма; часамі проста й кажуць, што нічога ад Польшчы добрага дабіцца нельга...

Селянін—чалавек жывога дзела і ў мудрых палітычных прамовах незаўсёды мае час разьбірацца. Нарэшце, яны яго нічым і ня грэюць.

Шмат набалела справаў, шмат агульна - прызнаных жыцьцёвых ненармальнасьцяў б'е ў вочы ў нашым няшчасным краі і, праз гэта, шуканьне, як інтэлігэнцыяй нашай, так і простым сялянскім людам сапраўднага, дзейнага нацыянальнага цэнтру нічога дзіўнага з сябе не прадстаўляе.

І мы можам супакоіць нашых паважаных чытачоў, можам сяговньня давясьці да іхняга ведама, што справа пакрысе кратаецца з месца.

Школьная камісія апрацоўвае плян закладаньня школаў, рэеструе настаўнікаў, ад якіх штодня сыплюцца заявы.

Выбраная на конфэрэнцыі 21 гэтага верасьня Часовая Беларуская Рада робіць захады аб тым, каб разьвінуць працу ў самым шырокім маштабе па меры сіл і магчымасьцяў.

Трэба адсюль зьверху цесна зьвязацца з масамі, трэба памятаць аб тым, што ў іх сіла і канчальны народны аўторытэт, трэба, як належыць, падрыхтавацца да склікаsuccessfully намечанага беларускаю конфэрэнцыяю зьезду дэлегатаў усяе Заходняй Беларусі, каб сам народ цераз сваіх прадстаўнікоў мог сьмела сказаць, што трэба рабіць для беларускай справы, каб яна магла нармальна разьвівацца.

І ад энэргіі ды ўдачаў Часовае Беларускае Рады залежыць тое, каб вывясьці справу з сягоньняшніх тупікоў.

Туга па нацыянальным цэнтры сярод нас скончыцца тады, калі мы цеснай грамадой, дружна ўсе, падумаем аб спосабах тварэньня нармальных формаў нашага нацыянальнага жыцьця ў Польшчы і створым патрэбны нам цэнтр на будучым зьезьдзе, а да зьезду гэтага натуральным цэнтрам нашым будзе служыць Часовая Беларуская Рада ў Вільні, якая зьявілася на сьвет у рэзультаце конфэрэнцыі прадстаўнікоў дэмакратычных беларускіх партыяў, арганізованага сялянства і нашай роднай інтэлігэнцыі.

---

## Палітычны агляд.

Паседжаньні Лігі Народаў ужо канчаюцца. Адзіны і, можна сказаць, галоўны рэзультат гэтай работы — апрацаваньне проекту г. наз. міжнароднага прымусовага **арбітражу**, высунутага на першае месца Англіяй і Амэрыкай, пад той час, як разгляд двох іншых спосабаў спыненьня вайны ў будычыне — ўзаемная помач і абязброеньне — якія падтрымоўваліся Францыяй, лічыўшай іх неразрыўна зьвязанымі з арбітражам, адложаны да скліканьня новай міжнароднай конфэрэнцыі. У апрацованым у камісіі проекце арбітражу вырашана зразуменьне слова **нападаючага** або **атакуючага**, які будзе адказваць за выкліканьне вайны. Нападаючай будзе лічыцца тая дзяржава, якая не аддае свае калацьбы на разгляд спэцыяльнай камісіі, дзяржава, якая ня згодзіцца датарнавацца да спосабаў апрацованых арбітражам. Усе дзяржавы, падпісаўшыя гэты дагавор, павінны аддаць у распараджэньне арбітражнае камісіі пэўны лік марскіх, сухапутных і паветраных сіл дзеля рэпрэсіі проці напаўшага. Той, хто нападзе, павінен пакрыць усе расходы, выкліканыя вайной. Згодна з гэтым проектам, усялякая вайна будзе лічыцца незаконнай, апрача неабходнай ваеннай дзеі проці напаўшага. Пасьля будзе запрапанована ўсім дзяржавам увайсьці ў Лігу Народаў з умовай, каб спаўняць усе вымогі Лігі і падпісаць проект арбітражу. Дзяржава, адмовіўшаяся падпісаць арбітраж, будзе таксама лічыцца нападаючай. Гэты проект будзе мець абавязковую моц пасьля ратыфікацыі падпісаўшымі дзяржавамі. А што датычыцца проекта ўзаемнай помачы і абязброеньня, дык дзеля вырашэньня гэтых пытаньняў Ліга Народаў павінна пастарацца як мага хутчэй склікаць міжнародную конфэрэнцыю.

Грузінскае паўстаньне, як і трэба было спадзявацца, не ўдалося. Бальшавікі на Каўказе ўжо „ліквідуюць" грузінскае паўстаньне г. з. расстрэліваюць масамі бяз ніякага суда ўсіх, каго падазраваюць у падгатоўцы і ўчасьці ў паўстаньні. Мясцовыя чрэзвычайкі проста купаюцца ў крыві нявінных грамадзян, якія даўжэй не маглі пераносіць бальшавіцкага тэрору.

Рахаваць на загранічную падмогу няма што. Заграніца няздольна ні на што іншае, як толькі на папяровыя протэсты, на якія бальшавікі не зварачваюць зусім увагі. І цяпер некаторыя дзяржавы і работніцкія арганізацыі выступілі з протэстамі толькі дзеля таго, што мелі справу з грузінскай дэмакратычнай рэспублікай, тады як гэткія-ж паўстаньні на Д. Усходзе, Туркестане, Хіве, Бухары і на Украіне ня выклікалі ніякіх протэстаў.

Палажэньне ў Баўгарыі, як і раней, надта паважнае. Увесь край абяўлены на ваенным палажэньні. На граніцу Македоніі, дзе ідзе барацьба македонскіх фэдэралістаў з аўтанамістамі, выслана дзяржаўнае войска. Цяпер ужо выразна выясьнілася ўчасьце бальшавікоў ў македонскай разрусе. У чэрвені ў Вене бальшавікі падпісалі дагавор з павадыром македонскіх аўтанамістаў, Аляксандравым, аб супольных выступленьнях з баўгарскімі і македонскімі камуністамі, якія хочуць арганізаваць сувязь балканскіх савецкіх рэспублік. Але дзеля таго, што Аляксандраў імкнуўся да заснаваньня незалежнай македонскай рэспублікі, зложанай з частак Македоніі, разьдзеленай між Баўгарыяй, Сэрбіяй і Грэцыяй, дык бальшавікі ў апошні момэнт пастанавілі пазбыцца

яго. І Аляксандрава бальшавіцкія агенты забілі. Пасьля гэтага, старонькі Аляксандрава таксама пазабівалі галоўных павадыроў фэдэралістаў-камуністаў Алеко Пашу, палк. Атанасава і лідэра баўгарскае камуністычнае партыі ў парлямэнце Хаджымава. Апрача таго, забіты гэткія павадыры сялянскай партыі: Імаў, Танеў, Міркаў, Ізмайлаў, Васіль Талеў, К. Манчаў і П. Вылкаў. Мабыць бальшавікі не спадзяваліся гэтакіх рэзультатаў, калі разрахоўваліся са сваімі прыцўнікамі. Цяпер мабыць будзе ўжо даўпо падгатаванае выступленьне баўгарскіх камуністаў.

А дарэчы будзе колькі слоў і аб Вэнгрыі. Хто-бы мог падумаць, што бальшавікі пагодзяцца калі з „белагвардзейскай“ Вэнгрыяй, ліквідаваўшай у сябе савецкага дыктатара Бэля-Куна, высланага са сваімі таварышамі ў С. С. Р. Р. А аднак у апошні момэнт пайшлі чуткі, што бальшавікі гатовыя навет падпісаць з рэакцыйнай Вэнгрыяй ваенна-палітычны дагавор, скірованы проці Румыніі дзеля таго, каб зусім яе адрэзаць і пазбавіць падмогі Чэхіі і Сэрбіі. І сама Вэнгрыя таксама неяк згодна на гэта. Ягічэ ў пачатку гэтага году быў пасланы ў Маскву адзін з выдатных вэнгерскіх дзеячоў з таёмнымі даручэньнямі, якія быццам удачна споўніў. Саветы абяцаюць вярнуць Вэнгрыі Трансыльванію, дастаўшуюся па Трыянонскаму дагавору Румыніі, за падмогу бальшавіком, калі-б яны мелі аружнае спатканьне з Румыніяй. Вэнгерскі рэгэнт Хорті згаджаецца на гэта і толькі прэм'ер Бэтлен працівіцца гэтай авантуры, не даваючы шчырасьці бальшавікоў, думаючы больш скарыстаць шляхам перагавораў з саюзьнікамі.

*N.*

## ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

На кракаўскім зьезьдзе злучаных народных партыяў „Wyzwolenie“ і „Jedność Ludowa“ 14 і 15 верасьня было пастаноўлена стварыць новую земляробскую арганізацыю на першы час толькі профэсыянальную, а затым, у выпадку патрэбы, й палітычную. Апрацаваньне падробнае праграмы даручана асобнай камісіі, якая запрапануе яе найбліжэйшаму зьезду левай часьці земляробскага лагеру дзеля абгавору і прыняцьця. Новая арганізацыя мае выступаць, галоўным чынам, проці партыі Вітоса.

Першы аддзел ваеннай пагранічнай варты на савецкай граніцы будзе установлены ў палове кастрычніка. Ен зложыцца з рэгулярнага польскага войска і будае дапоўнены навабранцамі, якія будуць прыняты ў кастрычніку.

Як піша „Echo Warszawskie“, ў палітычных сфэрах хадзіла дзейка нібыто радыкальныя элемэнты украінскага пасольскага клюбу прапагавалі сабатаж Сойму, які меў выразіцца ў тым, што падчас першага пасяджэньня Сойму была-б зроблена ўрачыстая заява, пасьля чаго названыя паслы пакінулі-б соймавую залю да часу новых выбараў.

З гэтай мэтаю радыкальныя украінцы, як быццам, зьвярталіся таксама да Беларускага Пасольскага Клюбу дзеля дружнага выступленьня. Які быў беларускі адказ — невядома.

Спытаны аб гэтым адзін з выдатных, умяркованых украінскіх паслоў заявіў, што падобная акцыя абсолютна ня можа быць адобрана ўсім клюбам, як саўсім нерэальная і шкадлівая.

Паводлуг паведамленьня з Варшавы за 24 верасьня, ў акружным судзе пачаўся разгляд справы праваслаўнага сьвяшчэньніка Смарагда Латышэнкі, абвінавачанага ў забойстве мітрапаліта аўтокефальнае праваслаўнае царквы ў Польшчы Юр'я. Латышэнка на расейскай мове заявіў, што ня чуе за сабою віны, таму што забіў мітрапаліта Юр'я, як здрадніка праваслаўнае царквы ў Польшчы.

У урадовых кругох пануе перакананьне, што ўрад зможа прадставіць у Сойм проект бюд'жэту на 1925 год 20 кастрычніка.

Дэлегацыя саюзу чугуншчыкаў прадставіла міністру чугунак інжынеру Тышцы постуляты саюзу аб спыненьні рэдукцыі чугуншчыкаў. Як думае міністар, гэтыя постуляты поўнасьцю ня могуць быць узяты пад увагу, дзеля таго, што спроектованая рэарганізацыя сыстэмы працы пацягне за сабою зьменшаньне ліку працаўнікоў на чугунках.

У парлямэнтарных кругох абгаварваецца замер партыяў, скірованы да рэконструкцыі ўраду. Па адтрыманых у соймавых кругох інформацыях, зьмены закранулі-б перш за ўсё міністэрствы справядлівасьці і прасьветы, а таксама ўнутраных справаў. Магчыма, што зьмены на пасадах міністраў пацягнулі-б за сабою зьмены на вышэйшых адміністрацыйных пасадах.

Як піша „Przegląd Wiecz.“, ў аўторак савецкаму паслу даручаны 2 ноты. Адна са зьместам адказу па ноту Чычэрына аб нападзе на Стоўпцы, другая з прычыны інтэрвью гэн. Сікорскага аб палажэньні ўва ўсходніх ваяводзтвах.

У аўторак 23-га гэт. верасьня выехаў у інспэкцыйную падарожу ў Роўна і іншыя акраінныя месты міністар унутраных справаў п. Гюбнэр.

## Бандыцкі напад на поезд.

Ува ўсіх учарашніх віленскіх газэтах зьмешчана гэткая заметка: „Інспэктарат Арміі паведамляе, што 24-га верасьня ў 14 гадз. на пасажырскі поезд, які йшоў з Берасьця ў Лунінец, зроблены быў напад паміж станцыямі Парахонск і Плоўна. Азброеная банда ў 40 чалавек, затрымаўшы поезд, адрэзала паравоз і пусьціла яго без абслугі ў кірунку Лунінца, дзе ён быў спынены. Банда падарвала мосьцік за поездам у кірунку Пінска і пачала грабеж. У поезьдзе ехаў ваявода Даўнаровіч, камэндант акружное паліцыі Міансовіч, біскуп Лазінскі, сэнатар Віслаух і інш. Бандыты выдалі абабраным пасажырам квітанцыі, падпісаныя украінска-беларускім саюзам. З пасажыраў 1 забіты і 2 ранены. Ваявода выйшаў цэлым і знаходзіцца ў Лунінцы, адкуль кіруе пагоняю. Ваколічныя гарнізоны Лунінца і Пінска выслалі аддзелы ў пагоню. З Берасьця выехала спэцыяльным поездам пагоня, да якой далучыўся віцэ-ваявода і аддзел паліцыі“.

**За граніцай.**

Паводлуг вестак, адтрыманых з **Жэнэвы**, адбылося маленькае спазьненьне ў злажэньні рэдакцыі пратаколу арбітражу, з якой прычыны пытаньне аб санкцыі ня будзе разглядацца на пленарным паседжаньні Лігі Народаў.

У **Бэрліне** адтрыманы з **Лёндану** адказ на запрос нямецкага ўраду па пытаньню аб уваходзе Нямеччыны ў Лігу Народаў. Зьмест гэтага адказу яшчэ невядомы. Нямецкі міністар заграінчных справаў мае радзіцца аб гэтым пытаньні з ангельскім паслом Абэрнонам.

„Der Tog“ піша, што **нямецкі** ўрад ня мае замеру сам вырашаць пытаньне аб уваходзе **Нямеччыны** ў Лігу Народаў без папярэдняга паразуменьня з рэйхстагам, дзяржаўнаю радаю і складнымі часьцямі Рэспублікі.

21-га верасьня Нансэн конфэраваў у Гэйдэльбэргу з нямецкім канцлерам Марксам па пытаньню аб уваходзе Нямеччыны ў Лігу Народаў. Маркс заявіў, што Нямеччына прынцыпіяльна згодна ўвайсьці ў Лігу.

Паводлуг вестак з **Тыфлісу**, ў першыя дні грузінскага паўстаньня загінула вельмі шмат камуністаў, з якімі бязьлітасна распраўлялася разьюшанае насяленьне. Ня было тых пытак, якіх грузінскія сяляне ня прыдумалі-б дзеля прадстаўнікоў бальшавіцкае ўлады, палячы іх на агні, зьдзіраючы скуру жыўцом, чацьвяртуючы і г. д. Бальшавікі на гэта адказваюць яшчэ большымі жорсткасьцямі, расстрэльваючы й расьпінаючы захопленых у палон, палячы цэлыя вёскі, расстрэльваючы цэлыя сем'і.



## ТЫПЫ ПАЛЕСЬСЯ

*(Глядзі № 27 „Грам. Голасу“).*

Нейкі жудасны нібы стогн нясецца з галін дрэваў і за сэрца страх бярэ.

Чую нібы капаюць нечыя гарачыя сьлёзы на краскі, на зялёны мурог з лісьцьця дрэваў...

Я ведаю і сэрцам чую—гэта плача стары лес...

Ня плач, мой стары прыяцель магутны! Табе ня трэба плакаць!

Ляпей ты мне казку былых гадоў скажы, каб мог я маіх братоў да згоды паклікаць...

Не, ня чуе мяне стары лес!

Капаюць яго горкія сьлёзы, нясецца цяжкі ўздох...

Зорак праменьні іграюць яскрава ў хвалях Лані...

Пачаў казку казаць прачнуўшыйся сітняг...

Усё ціха...

Хутка ўжо, хутка зоркі згінуць адна за адною, неба асьвеціць сонцавы праменьні...

Вецер нудныя думкі разгоне, зашуміць цёмны лес, засьпяваюць птушкі ў галінах, засьмяецца, весялей панясе свае хвалі Лань...

А, пакуль што, плача стары лес і капаюць на зямлю яго сьлёзы...

### XXXVIII.

**У цёмную даль.**

Прабыўшы некалькі дзён у Ярэма, я пачаў такі зьбірацца ў далёкі шлях.

Алеся трохі засмуцілася...

Карп, Сымон і Ярэм прапанавалі пасядзець да саннае дарогі дый папрацаваць у ваколіцах, але я мусіў такі адмовіцца ад усіх прапазыцыяў...

Трэба было сьпяшацца, каб у час папасьці туды, куды ўжо шмат нашых сяброў пацягнулася.

Дзень расстаньня надыйшоў.

Я выяжджаў пад вечар.

Шчыра падзякаваўшы ўсіх сваіх блізкіх сэрцу сяброў я выйшоў з хаты...

— Не запамінайце нас, — сказала Алеся і змахнула рукой сьлязу...

Мілая дзеўчына, ці магу я запомніць таго, хто першы краску яскравую першай вясны мне падарыў!

Не, ніколі!

А цяпер, цяпер! лёс майго жыцьця кідае мяне ў хвалі, хвалі цёмныя, невядомыя...

Але веру моцна, моцна веру!! Зьвярнуся хутка я да цябе, мая любая дзяўчына! Будзем зноў разам слухаць казкі Лані, лесу і сітнягу.

Усе выйшлі з хаты. Я з Карпам сеў на воз. Коні кранулiся.

Бывайце-ж жывы, дарагія! Жывеце і чакайце...

Мы ехалі лесам у няведамую даль...

Калі была ўжо поўнач, мы выехалі з лесу і пад'ехалі да старое карчмы, ў якой жыў стары Янкель...

Ен адчыніў нам дзьверы... мы ўвайшлі... на стале гарэла сьвечка...

Праз гадзіны тры я сьціснуў моцна руку Карпу. Ен ехаў дамоў, да сябе ў лес...

Я застаўся адзін.

Уставала халодная, васенняя зарніца...

▭ Паводлуг вестак з **Масквы**, Чычэрын заявіў прадстаўніку Роста: пачатая цяпер у форме арганізацыі Лігі Народаў кампанія імпэрыялізму проці Рад. Расеі ня толькі не паднімае аўторытэту імя Лігі, але можа затрудніць правядзеньне ў жыцьцё англа-савецкага дагавору або заключэньне франка-савецкага паразуменьня. Грузінскі блёф, як заявіў Чычэрын, выкліканы, як сьведчаць дакумэнты, буржуазнымі дзяржавамі, якія хацелі выкарыстаць грузінскі рух проці Расеі. Рэзультаты паказваюць па тое, што Грузія зьяўляецца вольным сябром саюзу.

▭ Аг. Райтэра паведамляе з Лёндану, што ў **савецка-японскіх** перагаворах ужо дасягнёна паразуменьне па прынцыпіяльных пунктах, хаця яшчэ цэлы рад пытаньняў ня вырашаны.

▭ У **Лёндан** прыехаў **эгіпэцкі** прэм'ер Заглюль-паша.

▭ Паводлуг весткі з Лёндану, **манджурская** армія пасьля 11-ць гадзіннага бою нанясла арміі **кітайскага** маршалка Ву-Пэй-Фу цяжкае паражэньне. Чан-Со-Лін паведаміў прадстаўнікоў чужаземных дзяржаваў, што будзе бомбардаваць порт Шанхай і Кван, дзеля чаго пажаданы быўбы вывад чужаземных караблёў.

▭ Ангельскі пасол у **Бэрліне** прадставіў міністру загранічных справаў **Нямэччыны** Штрэзэману абшырны мэморыял ангельскага ўраду па пытаньню аб уваходзе Нямеччыны ў **Лігу Народаў**.

▭ Офіцыяльнае **гішпанскае** паведамленьне кажа аб пагоршаньні палажэньня ў **Мароко**. Дасюль не ўдалося памагчы акружанаму Тэтуапу.

▭ З Лёндану пушчана чутка, адтрыманая з Белграду аб забойстве караля ў **Баўгарыі**, але баўгарскае пасольства ў **Вене** офіцыяльна гэтаму пярэчыць.

▭ „United Presse“ пацьвярджае паведамленьне з **Шанхаю** аб падзеньні Чао-Янга.

▭ Паводлуг вестак з **Японі**, **савецкі ўрад** лічыць цяперашні момэнт найболып удачным дзеля ўмяшаньня ў **кітайскія справы**. У Уладывастоку сабраны вялікія ваенныя сілы, гатовыя напасьць на **Манджурыю** і нанясьці ўдар яе губэрнатару, ворагу бальшавізму.

# Агляд прэсы.

## Палажэньне на „Крэсах“.

„Kurjer Poranny“ зьмяшчае доўгі артыкул аб справе нападаў на „Крэсах“, у якім піша:

Напады дывэрсыйных бандаў на польскае пагранічча ўзрастаюць да аднаго з важнейшых значэньняў нашай і ўнутранай і за гранічнай палітыкі. Грамадзкая думка ў Польшчы незаўсёды бачыць тыя ніткі, якія вяжуць справу дывэрсыйных нападаў у адно цэлае, творачы для нас наша наагул крэсовае пытаньне. Гэтыя напады не карысталіся-б гэткім пасьпехам, калі-б ня мелі апоры ў межах Польскае Рэчыпаспалітай. Гэтай праўдзе трэба адважна глянуць у вочы, каб пасьля гэтага пачаць лячыць хваробу.

Крэсовыя палякі ня маюць у Сойме свайго прадстаўніцтва (?), ня могуць бараніць нашы справы перад законадаўчай і выканаўчай уладай. Гэта толькі крыху іх апраўдывае, дзеля таго, што недахват прадстаўніцтва ў Сойме гэта рэзультат таго, што ў цэласьці яны ня маюць аднолькавага і скрысталізованага пагляду, як разьвязаць гэты польскі гардыйскі вузел, ня маюць органу, які высказваў-бы іхнія імкненьні і які быў-бы абаронцай іх ідэі перад уладай у Варшаве і на Крэсах. З гэтых адносін выходзіць, што ня з Крэсаў плыве ініцыятыва да Сойму і ўраду, але палітычныя партыі Польшчы ўяжджаюць на Крэсы на сваіх партыйных коніках, вязучы з сабой запас проектаў, узятых са сваіх партыйных праграмаў, больш або менш прыгожых ці брыдкіх, залежна ад таго, з правага ці з левага боку будзем глядзець на іх. Гэтыя праграмы, ў большасьці выседжаныя пры пісьменных століках у Варшаве, даюць гэткі рэзультат, што разьдзяляюць польскае крэсовае насяленьне на пагляды, думаюць за яго, спрачаюцца з сабой і ставяць распыленых і пасварыўшыхся перад згуртованым фронтам 16-кі, якая часта карыстаецца належнай падмогай.

Далей аўтор дае рад прыкладаў з крэсовых адносінаў, малюючы настроі тутэйшага насяленьня. Паправіць палажэньне аўтор думае надта ўжо арыгінальнай самаабаронай. Між інш. для прыкладу:

У Дубенскім пав. ёсьць 25 аддзелаў саюзу стральцоў (Związek strzelecki), якія маюць 805 вышкаленых сяброў, у гэтым ліку 19 аддзелаў з 439 стральцамі, зложаных з адных толькі вайсковых асаднікаў. Камэндантамі—маёры, капітаны, ротмістры, паручнікі, часам сержант рэзэрвы. Гэтыя аддзелы ў кожны момэнт можна перарабіць на конныя аддзелы, дзеля таго, што асаднікі маюць у сваіх фальварках свае ўласныя коні. Гэтак сама й у Крамянецкім пав., дзе ёсьць 28 аддзелаў з 768 стральцамі, зложаных з адных толькі вайсковых асаднікаў. Гэтак сама й у Ковельскім пав. і г. д.

Аутор робіць вывад, што гэтыя асадніцкія конныя дружыны могуць даць адпор дывэрсыйным бандам, але не закранае гэтага балючага пытаньня глыбей, чаму дывэрсыйныя банды маюць добры грунт на „крэсах“ для свае дзеяльнасьці?

„Аружжа, аружжа і сёдлаў і хаця-бы па 10 набояў!“—гэткі кліч укладае аўтор артыкулу ў вусны асаднікаў. Але-ж гэта не лячэньне „хваробы“, аб якім кажа аўтор на пачатку свайго артыкулу, але паварот да мінулых часоў, мастацка апісаных у сянкевічаўскай „Трылёгіі“! Нам патрэбны не геройскія чыны пана Валадыёўскага або Кміціца, але супакойнае жыцьцё для залячэньня ваенных ранаў.

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Сучасны Дон-Жуан.

Як пішуць югаслявянскія газэты нейкі час назад у Брусэлі быў арыштованы Эт'ен Мішлэн, які аказаўся С. Мішэвічам, радзіўшымся у аднэй з гэрцагавінскіх вёсак недалёка ад Коньіцы. Арышт адбыўся пасьля таго, як была раскрыта авантура, арганізатарам якое быў Мішлэн-Мішэвіч. Ен сядзеў з некалькімі прыяцелямі ў аднэй брусэльскай кавярні, вядомай тым, што ў яе заходзяць вельмі харошыя жанчыны. Дзеля таго, што гэрцагавінскі Дон-Жуан любіў хваліцца сваімі ўдачамі ў жанчын, дык адзін з яго прыяцялёў падразьніваў яго тым, што ён наўрад ці дасягне ўдачы ў аднае з прыгожых жанчын, якая заходзіць у кавярню. Гарачы югаслявянін выскачыў з-за стала, схапіў адну з дамаў на рукі і хацеў вынясьці яе ў найбліжэйшы самаход. Але праз тое, што авантурніку заградзіў дарогу муж і рэшта публікі, дык у кавярні адбылася спатычка. Прыйшоўшая паліцыя аднавіла парадак і арыштавала Мішэвіча.

Падчас яго дапросу быў устаноўлены рад цікавых падробнасьцяў. Аказалася, што Мішэвіч падчас вайны зрабіў з некаторымі кампанамі страшэннае забойства ў Шыклёшы. Падчас гэтага забойства ён адцяў галовы мужу з жонкаю, двум дзецям і іхняй бабцы, а затым украў паўмільёна кронаў. Пасьля гэтага яму ўдалося ўцячы ў Мілан, дзе ён вёў жыцьцё Дон-Жуана. Ахвярамі Мішэвіча было шмат жанчын. Ягэ адвага ня мела граніц. У Мілане ён залез на трэці паверх і праз вакно прабраўся ў спальны пакой жонкі аднаго з адміністрацыйных вураднікаў, украў яго жонку і па вяроўцы спусьціўся ў загадзя нарыхтованы самаход. Затым ён зьнік з Мілану і зноў паказаўся ў Пізе. Там сярод белага дня ён на парашуце апусьціўся на вядомую Пізанскую косую вежу, ад чаго большасьць пізанскіх красуняў закахалася ў югаславянскім авантурніку. Аднак-жа ў Пізе Мішэвіч прабыў нядоўга і са своею каханкаю ўцёк у Ліон. Цягаючыся за касіеркаю кавярні Рыш у Ліоне, ён, каб даказаць сваё геройства, кінуўся пад ляцеўшы экіпаж, схапіў коні за повад і спыніў іх. Пасьля гэтага касіерка кавярні Рыш была ім пакорана. З Ліону ён цераз Парыж і Льеж прыехаў у Брусэль, дзе апошняя яго авантура палажыла канец яго кар'еры.

Паліцэйскія ўлады цяпер вядуць сьледзтва па гэтай справе ў Брусэлі, Белградзе і іншых местах, бышых арэнаю авантураў сучаснага Дон-Жуана.

# У С.С.Р.Р.

## Жыдоўскія земляробы ў Радавай Беларусі.

Менская газэта „Савецкая Беларусь“ падае цікавую заметку аб жыдоўскіх земляробах на тэрыторыі Радавай Беларусі. Як піша газэта, групы жыдоў-земляробаў былі ў Беларусі яшчэ й раней, але з часу рэвалюцыі лік іх пабольшаў. І толькі нядаўна ў зьвязку з пастановаю аб надзяленьні зямлёю безработных жыдоў пачалося падробнае абсьледаваньне пытаньня аб жыдоўскім земляробстве ў Беларусі. У мінулым годзе, паводлуг статыстычных даных на тэрыторыі Беларусі і ў Гомельскім раёне было 170 гаспадарак жыдоў-земляробаў на абшары

---

XXXIX.

### Маім братом.

Сумна мне. Вецер гоне па небе цяжкія хмары, зрывае жоўтае лісьцьцё з дрэваў і вясеньнюю песьню пяе...

Сумна мне!

Душу і сэрца сквалі думкі цяжкія, як хмары, цісяуць, гнятуць і ось, здаецца, што зараз пачую хаўтурны я звон...

А ён даўно ўжо нясецца, працяжна жудасна па ўсёй старонцы маёй, кудысь кліча, маніць абяцанкай спакою, дрыжыць ён у сэрцы маім...

Калі мы адпачынем?

Калі над нашай зямлёй будзе сьцяг толькі наш зьвіць?

Калі сьмела скажам усім, што хочам жыць сваім жыцьцём, сваею, уласнаю гаспадаркаю!

Мусіць ніколі?..

Сумна мне...

Нясуцца над хатай крумкачы. Чую я сэрцам бяду...

Да каго зьвярнуцца ў гэтую пару? Маліцца — каму?..

Каб уратаваў нас ад цяжкай нядолі, каб на шлях просты выйсьці дапамог...

Той, хто абяцаў дапамогу — здрадзіў і ў крыўду на вечныя мукі нас аддаў, пакінуў лёс наш у кайданох назаўсёды!..

Ось вецер заплакаў і хмары сьлязьмі закапалі...

Эх, цяжка мне, людзі!

Дайце хоць чарку на астатку жыцьця!

Сумна мне...

XXXX.

### Сярод поля.

Я адзін сярод поля, толькі адзін..
Наколькі хапае вока, нікога ня відаць
Сьнег, паўсюль сьнег...
А на небе высокім толькі зоркі гараць...
Я адзін, толькі адзін, сярод поля...
Не, няпраўда, думкі, як хмары, заўсёды пры мне!
Мае думкі, думкі цяжкія, жудасныя думкі!
Яны заўсёды са мной...
Сьнег, толькі сьнег і зоркі на небе...
Я і думкі і больш нікога...

Буду маліцца сярод поля, буду да сябе клікаць Бога!..

Хай прыдзе цяпер да мяне, хай прыдзе!..

Бо застаўся я адзін, адзін сярод поля, людзі пакінулі мяне аднаго...

Але я не баюся! Хай я адзін сярод поля, хай адайшлі ад мяне ўсе, але неба засталося і Бог прыдзе да мяне!..

Я веру, што хутка малітва мая да яго даляціць...

Ен пачуе яе, і жаль, жудасны жаль душы мае, зразумее і скажа словы свае, якія я ў сэрцы сваім захаваю...

Я хутка з поля прыйду да тых, якія ўцяклі ад мяне, з Божым словам...

Тады ня будуць уцякаць, тады будуць шукаць мяне...

А цяпер, цяпер я адзін сярод поля з малітвай сваей.

Сьнег, толькі сьнег і зоркі на небе...

Думкі, малітва і я...

**Дзяргач.**

*(Канец).*

Вёска Мілкавічы, на Палесьсі.

18.000 дзесяцін; земляробствам займалася 18.000 жыдоў. У цяперашні час колькасьць жыдоўскіх земляробскіх арцеляў павялічваецца і іхнімі рукамі абрабляецца каля 20.000 дзесяцін. З гэтых 20 тысячаў дзесяцін зямлі засейваецца 12.000. Рэшта зямлі знаходзіцца пад сенажацямі, сядзібамі і г. д. З 75-х земляробскіх жыдоўскіх арцеляў, 29 жыве на абрабляемай імі зямлі, а рэшта ў ваколічных мястэчках і вёсках. У раёне жыдоўскага земляробства ёсьць 9 агранамічных пунктаў. Аграномы абслугоўваюць не толькі жыдоўскіх сялян, а і беларускіх. Нявыгаднасьць беларускага групту (яго балацістасьць, лясістасьць і інш.) змушае жыдоўскіх земляробаў імкнуцца да перасяленьня ў Украіну. У бягучым годзе перасяліліся ў Украіну каля 700 жыдоў-земляробаў. На Украіне вольнае зямлі ў жыдоў-земляробаў было 18.000 дзесяцін. Усяго ў Украіну перасяляецца з Беларусі 5.000 чалавек.

### Гандаль беларускім лесам.

Паводлуг вестак з Масквы, беларускім лясным трэстам прадана ў Кэнігсбэрг (Нямеччына) 700.000 кубічных футаў лесу. Лес будзе сплаўляцца Нёмнам.

## Жыцьцё провінцыі.

### Дывэрсыйныя напады.

### Наваградак.

Палажэньне ў нас з боку бясьпечнасьці ад дывэрсыйных бандаў нельга назваць добрым. Хаця вялікшыя банды ўжо разьбіты аддзеламі паліцыі, дывэрсыянэры пачалі дзеяць маленькімі групкамі па 2 — 3 асобы. Гэтая новая тактыка вымагае вялікай асьцярожнасьці з боку ўлады і акуратнага прасочваньня, каб вылаўліваць падазронны элемэнт, але аднак самаабарона мясцоваму насяленьню дзеля гэтага лягчэй даецца. Дык вось штораз часьцей здараецца, што цывільнае насяленьне само прагане банды.

У мінулым тыдні дывэрсыйная банда, якая круцілася ў ваколіцах Наваградку, напала на маёнтак Краватурын Левашкевічаў. Гаспадары спаткалі „госьцяў“ градам куляў. Пачалася з абодвых бакоў страляніна, якая трывала даволі доўга. Урэшце, як колькі бандытаў было раненых, яны адступілі, забіраючы раненых з сабой.

Пачалася за імі пагоня, але рэзультат яе, пакуль што, яшчэ няведамы.

### Лунінец.

Зусім інакш было ў вёсцы Сянкевічы, Лунінецкага павету. Тут бандытам пашэнціла. Нападаўшыя былі падзелены на колькі „тройкаў“. Усе яны былі азброены стрэльбамі і рэвальвэрамі. Жыхары вёскі, пабачыўшы бандытаў, страшэнна перапалохаліся і пахаваліся ў сваіх хатах. Пабачыўшы гэта, дывэрсыянэры сьмела ўзяліся за „работу“ і ўшчэнт аграбілі найбагацейшую ў вёсцы краму Янкі Красоўскага. Пасьля гэтага бандыты ўцяклі. Пасланая за імі пагоня вярнулася без рэзультату.

### Троцкі пав.

У мінулым тыдні ўночы з пятніцы на суботу каля фальварку Дэмбякава, Рудомінскай вол., трох бандытаў у масках, азброеных стрэльбамі, напалі на вяртаўшагася з Вільні дамоў Віктара Шчэрбака (фальв. Паўлава, Тургельскай в.). Пагражаючы стрэльбамі, бандыты адабралі ў яго грошы і куплены ў Вільні тавар і ўцяклі.

Праз поўгадзіны гэтыя самыя бандыты напалі на ехаўшую па той самай дарозе Караліну Багдзевіч (Рымшыскі), ў якой адабралі грошы і куплены ў Вільні тавар. Аграбіўшы яе, бандыты ўцяклі ў лес.

### Самагубствы.

### Дзісенскі пав.

У вёсцы Праабражэна, Пільскай вол., Дзісенскага пав., Рыгор Шыбка З стрэламі з рэвальвару небясьпечна раніў Лею Борзак, 22 г., а пасьля сам застрэліўся. Прычына забойства і самагубства няшчаснае каханьне.

### Вялейка.

У Вялейцы атруцілася сернай кісьляй даглядчыца бальніцы М. N. К., Анна Ясінская. Прычына самагубства недахват вялікшага ліку бальнічнага порця.

### Вёска Гарнякі, *Краснасельскай воласьці, Вялейскага павету.*

Перад вайной на нашу ваколіцу в. Мазалі, Гарнякі і Радзёўцы была школа. Навет быў збудованы ўжо і школьны будынак, у якім аставалася толькі палажыць столь, падлогу і печы зрабіць, але вайна спыніла ўсю работу і мы зусім асталіся бяз школы. Дзяцей у пашых вёсках школьнага веку налічваецца балей за 150 душ, якія бяз ніякай навукі растуць, як лес гледзячы. Школьны будынак стаіць бяз ніякага дагляду, лаўкі нашы і шафы, бібліятэку забраў Краснасельскі войт і аддаў школе ў Красным, у якой і так ужо усяго ёсьць аж залішне, а ў нас забралі апошняе. Наагул Краснасельская воласьць па вясковыя школы можна сказаць не дае нічога, трацячы ўвесь школьны будзжэт на Краснасельскую школу, а ў школах на вёсцы, не заплацілі яшчэ за прыватныя будынкі сялянам за леташні год, у якіх былі школы. Дык ня дзіва, што сяляне дрэнна глядзяць на пана войта Сурымту, які відаць бароніць свой мясцовы інтэрас больш як агульна-валасную справу. Вельмі было-б добра, каб паважаная наша сялянская газэта „Грамадзкі Голас“ параіла нам, як у нашай вёсцы ізноў адчыніць беларускую школу і як вярнуць нам наш школьны інвэнтар, які Краснасельскі войт забраў і аддаў у Краснасельскую школу? Навін у нас ніякіх няма. Можна сказаць праўду, жывём ціха і спакойна, калі толькі і ёсць бяды—заплаціць сякую-такую даніну. Ураджай у нас сярэдні, жыта неўмалотнае ды надта сёлета нешта пашкодзіла бульбе, якая гніець яшчэ не выбіраная. Вельмі добра было-б каб пан рэдактар высылаў у нашу вёску хоць адзін нумар „Грамадзкага Голасу“. Ч—кі.

## Навіны у тры радкі.

— У Амэрыцы, ў вуглявой шахце ў Уаёмінгу ўзрывам засыпана 47 вуглякопаў. 12-цём удалося выратавацца, 3 выдягнены нязывымі.

— Бальшавікі пастанавілі замяніць традыцыйны вавенна-санітарны значок *чырвоны крыж* на значок Эскулапа: *чашу з вужакаю.*

— У рэзультаце чысткі ў вышэйшых школах Радавай Беларусі выкінена з агульнага ліку 4.482 студэнтаў—1.078 чалавек (25%).

— У Эгіпце недалёка ад пірамідаў Саккара выкрыты дзьве дамавіны, паходзячыя з часоў трэцяе дынастыі.

— У Петраградзе пушчаны ў абег першыя медныя монэты ў 5, 3 і 2 капейкі.

— За адзін толькі дзень — мінулую нядзелю — ў Бэрліне зрабілі самагубства 7 чалавек: 3 атруціліся сьвяцільным газам, 3 павесіліся і адзін утапіўся.

— У Сьмірне падчас пажару ў кінематографе 20 чалавек згарэла, 20 ранена і 25 загінула бяз ведама.

— На прапаганду сярод чырвонаармейцаў у 1924—25 г. урад С. С. Р. Р. асыгнаваў 1.765.000 залатых рублёў.

— Увечары 24 вер. ў Гэнуі (Італія) чулася землятрасеньне, выклікаўшае паніку. Насяленьне правяло ноч пад голым небам.

— У Парыжы памёр бышы расейскі пасол у Вене — Гірс.

— Намесьнік дырэктара ізбы скарб. у Кракаве Э. Рэйхэрт узяў з касы 100.000 злотых і іншыя каштоўнасьці ды ўцёк невядома куды.

## Навуковыя навіны.

### 500 ўраджаяў з аднаго зярня, насычанага электрычнасьцю.

Француцкі вучоны граф. Шапталь, які доўгі час займаўся справай **уплыву электрычных хваляў на раль-лю**, дайшоў ў сваіх досьледах да рэзультатаў, якія павінны вельмі зацікавіць нашага селяніна - хлебароба.

*Паводлуг пагляду вучонага, электрычныя хвалі, павышаюць ураджайнасьць грунту на 150 — 500 процэнтаў.*

Досьледы, робленыя ў лябораторыі Земляробнага Інстытуту ў Парыжы, далі сэнсацыйныя вынікі.

**Зярнё пшаніцы, пасаджанае ў гаршчочку, які быў пад уплывам электрычных хваляў, дало 500-кратнае жніво!** (сам - пяцьсот).

Колькасьць ураджаю меншала па меры таго, як слабела электрычная энэргія і ў гаршчочках, не паддаваных уплыву хваляў, даходзіла толькі да 6 зерняў з аднаго.

Добры ўплыў электрычнасьці на ўраджаі можна было заўважыць у Амэрыцы, ў тых ваколіцах, дзе моцна разьвіта радыя - тэлеграфная сетка.

Аднак-жа дзеля падняцьця земляробнай прадукцыі, больш адпавядаючым мэце было-б пабудаваньне адумысных станцыяў, якія карміліб сва ім токам ваколічныя палеткі.

## Тутэйшая хроніка.

**Інспэкцыйная падарожа Дэлегата Ураду.** У сераду 24 гэт. верасьня Дэлегат Ураду п. Ул. Рачкевіч выехаў на інсцэкцыю Сьвянцянскага й Ашмянскага паветаў. Паварот п. Дэлегата адбудзецца праз пару дзён.

**Конфэрэнцыя ў Дэлегатуры.** 22-га гэтага верасьня ў п. Дэлегата Ураду адбылася конфэрэнцыя з вайсковымі прадстаўнікамі аб службе лучнасьці.

**Выступленьне белар. сэнатара й пасла ў Зьвярынцы.** 21-га верасьня на царкоўным могільніку ў Зьвярынцы сэнатар Багдановіч з паслом Кахановічам зрабілі досіць вялікі мітынг, на якім протэставалі проці ўвядзеньня новага стылю да праваслаўнае царквы ў Польшчы. Цікава, што паны беларускія парлямэнтары прамаўлялі на мітынгу... парасейску. Спроба пасла Кахановіча гаварыць па-беларуску была апратэстована зрусеным віленскім праваслаўным мяшчанствам.

**Прызыў рэкрутаў 1903 г.** З 23-га гэтага верасьня пачалося даручэньне павестак дзеля яўкі ў Р. К. U. прызыўных, якія радзіліся ў 1903 г.

**Падаходны падатак.** Збор падаходнага падатку ад службовае пэнсіі й эмэрытураў, а таксама з платы за паёмную працу будзе рабіцца ў кастрычніку па стаўцы, вызначанай на травень, згодна з распараджэньнем мін. скарбу ад 18-га верасьня.

**На зьезд гарадзкіх самаўрадаў.** Ад места Трокаў на зьезд прадстаўнікоў гарадзкіх самаўрадаў у Вільні дэлегованы Балеслаў Ляховіч і Уладыслаў Будрэвіч.

## УСЯЧЫНА.

### Хто падарыць паўлітра крыві?

У чэскіх газэтах знаходзім гэткую арыгінальную абвестку: „28 гадовы інвалід, чэх просіць добрага і здаровага чалавека (мужчыну або жанчыну), каб ён падарыў яму каля паўлітра свае крыві дзеля пераліўкі, таму што толькі гэткім спосабам яму можа быць уратована жыцьцё. Асобы, якія хочуць зрабіць гэты шляхетны паступак, павінны заявіць аб гэтым на пісьме ці вусна ў другую чэскую хірургічную клініку д-ра Р Едлічкі ў Пражаскай санаторыі на Падоле“.

### Дзядзька Троцкага.

Ведама, што бальшавіцкія саноўнікі вывозяць за граніцу і хаваюць там у сэйфах брыльянты, каштоўныя каменьні й золата, адабраныя ад замучаных у чразвычайках ахвяраў. Ведама таксама, што савецкія дзеячы вывозяць каштоўнасьці кантрабандным шляхам, ашукваючы мытныя установы.

Нядаўна ў Бэрліне выйшла цікавая гісторыя з дзядзькам Троцкага—грамадзянінам Цімахвеем Жыватоўскім.

Працаўнік пагранічнае мытнае установы Іоган Штэйн зрабіў у прысутнасьці вураднікаў крымінальнае паліцыі і вураднікаў мытнае установы вобыск у кватэры Жыватоўскага ў Шарлётэнбургу, якога падазраваў у контрабандным правозе брыльянтаў. На кватэры ў дзядзькі Троцкага быў знойдзены толькі невялікі брылянт, але затое—цэлы пук квітанцыяў на буйныя брыльянты, пакладзеныя ў банк. Каб памсьціцца на працаўніку мытнае установы, дзядзька Троцкага заявіў пракуратары, што І. Штэйн нібыто зьвяўся да яго на другі дзень, вымагаючы буйны хабор у далярах.

Гэта дзіўная справа разьбіралася на мінулым тыдні ў сераду ў судзе шэфэнаў. Сам дзядзька й выклікання ім сьведкі не зьявіліся. Абаронца Штэйна заявіў, што справа, ў даным выпадку, йдзе аб находзе „расейскіх (знач. савецкіх) кругоў проці пагранічнае мытнае установы“. Абаронца заявіў таксама, што „расейскія цэнтральныя інстытуцыі зрабілі дыпляматычныя крокі да таго, каб суд пазволіў прадстаўніку Жыватоўскага пераглядзець судовыя акты, зробленыя па справе Штэйна“.

Разгляд справы, з прычыны адсутнасьці сьведкаў абвінавачаньня, адкладзены.

## Паштовая скрынка.

У. Б. Плата 100 зл. у месяц і кватэра бясплатная. Калі падходзіць, дык хутка прыяжджайце.

Выдавец: Беларускае Грамадзянск. Сабраньне. Рэдактар: Язэп Салавей. Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.